АДНАДНЁУКА. ЦАНА 20 ГР.

# НАШ БЮЛЕТЭНЬ

Таварыства Беларускае Школы

АДРЭС ВЫДАВЕЦТВА: ВІЛЬНЯ, КІЕЎСКАЯ ВУЛ. 4—24.

30 ЛІСТАПАДА 1932 ГОДА.

## Бліжэйшыя задачы Т-ва Бел. Школы.

Мы ўжо некалькі разоў пісалі аб тым, што трэба гатовіцца да Агульнага Сходу Т-ва. Аднак тое, што зроблена ў гэтым кірунку, кажа нам, як ня трэба ясьней, што ня ўсе арганізацыі, паасобныя сябры Т-ва, ня ўсе з шырокіх народных мас і беларускага грамадзянства здаюць сабе справу з таго значэньня, якое павінен мець і напэўна будзе мець Агульны Сход.

Т-ва, паміма ўсяго таго, што перажыла за апошнія гады, зьяўляецца ўсё-ж такі найбольшай беларускай культурна-асьветнай народнай арганізацыяй, — арганізацыяй, якая найглыбей запусьціла свае карані ў працоўныя гушчы, якая мае бяспрэчны аўтарытэт і даверра з боку найшырэйшых слаёў беларускага народу.

Т-ва мае слаўнае прошлае і мо' больш слаўнае будучае. Т-ва зрабіла неацэнены ўклад у справе ўсьведамленьня шырокіх народных мас Зах. Беларусі. Т-ва правяло школьную кампанію, дзе пад яго кіраўніцтвам бацькі злажылі дэкларацыяў больш як на 40 тысяч дзяцей, з дамаганьнем роднае школы; Т-ва ўтрымлівала гімназіі, давала стыпэндыі бедным вучням, наладжвала для іх масавыя зборкі прадуктаў і грошай. У шмат каго застаецца мілы ўспамін з таго, як сяляне — хто колькі мог — зсыпалі сваё збожжа, бульбу, для дзяцей, вучняў гімназіяў, з якімі потым так шорстка расправіліся іх няпрошаныя „апякуны". Т-ва мае за сабой тысячы пастановак беларускіх спэктакляў, вялікі лік лекцыяў, выступленьняў хораў. Т-ва праз свае бібліятэкі-чытальні ў гуртках дало тысячы кніг у рукі сялян...

Шмат, шмат хто навучыўся чытаць і пісаць...

*Таму лёс Т-ва ня можа ня быць кроўна блізкім кожнаму селяніну, рабочаму і працоўнаму інтэлігэнту. Усе яны мусяць згуртавацца, каб паставіць яго на вышыню мінулых гадоў,* тым балей, што апошнія факты з жыцьця Т-ва кажуць аб павароце на лепшае. Праца Галоўнай Управы ажыўляецца. Мы выдаём вось ужо 3-ці Бюлетэнь. Ажыўляюць сваю дзеальнасьць старыя гурткі, закладаюцца новыя. Пачынае адпадаць тая баязьнь, якой былі акутаны нясьмелыя, але шчырыя адзінкі.

У аснаўным праца Т-ва павінна пайсьці ў двух кірунках: расшырэньне сеткі гуркоў і прыймо новых сябраў — з аднаго боку, і ажыўленьне працы там, дзе ўжо існуюць гурткі — з другога.

Што да першага пункту, дык зварочваемся з гарачым заклікам да ўсіх ахвочых да працы, да ўсіх былых сябраў і б. гуртков Т-ва *ўзяцца за культурна-асьветную работу, зьвяртацца да нас па інфармацыі і інструкцыі.*

Што да другога пункту, дык тыя гурткі, якія мала працуюць, павінны браць прыклад і вучыцца з найбольш актыўных. Як прыкладныя гурткі можам лічыць у Беласточчыне, Косаўшчыне і Воўкавышчыне. Там кожны амаль гурток мае бібліятэкі-чытальні, сэкцыі драматычныя, харавыя, пазашкольнай асьветы. Зусім новыя сэкцыі маюць паўстаць у Косаўскай управе, як сэкцыя прэсавая і інш. Справаздачы аб працы, якія мы друкуем у хроніцы Т-ва, могуць служыць найлепшай крыніцай для вынахаду спосабаў ажыўленьня працы Т-ва. Няхай кожны гурток прышле справаздачу аб сваёй працы. Няхай у кожным гуртку будзе на голас прачытаны „Бюлетэнь" і абгавораны справы, якія ў ім зьмешчаны.

Асаблівае значэньне ў працы Т-ва трэба прызнаць падгатоўцы Агульнага Сходу. Ён павінен будзе ўфармаваць кіраўніцтва Т-ва, яго Галоўную Управу і Наглядную Раду, накрэсьліць плян працы, адказаць на ўсе актуальныя пытаньні і даць арганізацыйныя формы культурна-асьветнага руху на мяйсцох, які цяпер пачынае ажыўляцца.

Аднак ролю гэту Агульны Сход споўніць толькі тады, калі ён будзе лічны, калі будзе рэпрэзэнтаваць найшырэйшыя слаі народу і беларускага грамадзянства з усяго нашага абшару.

Паводле § 31 нашага статуту Агульны Сход складаецца: а) з сяброў Нагляднае Рады, б) з сяброў Галоўнае Управы і іх заступнікаў, в) з прэзыдыюмаў аддзелаў ня больш як па тры асобы ад кожнага аддзелу, г) з Акружных Управ — па два ад кожнае, д) з дэлегатаў гуртков — па два ад

кожнага вокругу, е) з пачэсных сяброў. Як з гэтага бачым, найбольшы лік дэлегатаў павінен быць з Акружных зьездаў і Управ. Мы маем цяпер толькі 2 Акружныя Управы ў Беластоку і Косаве, дзе паводле статуту адбыліся выбары, і адкуль могуць прыехаць толькі 8 дэлегатаў, што становіць за мала. Таму трэба палажыць усе высілкі на арганізацыю павятовых Сходаў і Акружных Управ. У іншых паветах *гэтая задача перадусім ляжыць на гуртках Стаўпецкага, Ваўкавыскага, Сакольскага і Пружанскага павету.* Зразумела, што і ў іншых паветах трэба імкнуцца да той-жа мэты.

Але падгатоўка да зьезду не абмяжоўваецца выбарам дэлегатаў. Трэба, каб яны ня толькі самі прыехалі, але каб нешта з сабою прывязьлі, каб прывязьлі думкі, імкненьні, працу тых, ад каго яны пасланы. Трэба, каб дэлегаты маглі сказаць, што зроблена і што трэба рабіць; трэба каб прыйшлі з плянам працы, а таксама запрапанавалі тых людзей, якія возьмуцца за правядзеньне намечаных задач.

# Наша праца і абавязкі.

На парадку дня перад Т-вам ёсьць шмат заданьняў, якія вымагаюць вялікае працы дзеля іх вырашэньня. Каб ажывіць нашу працу, трэба распачаць у гуртках чытаньне папулярна-навуковых рэфэратаў, завясьці там, дзе яшчэ гэта не практыкуецца, навучаньне дарослых і дзяцей, арганізаваць, дзе ёсьць хоць маленькая магчымасьць, драматычныя і харавыя сэкцыі, каб ладзіць вечарыны, спэктаклі, канцэрты. Разам з усім гэтым трэба зьвярнуць большую, як дагэтуль, увагу на пашырэньне друкаванага слова. Зразумела, што над усімі гэтымі справамі кіруючую ролю мае Галоўная Управа, якая вядзе перапіску з гурткамі і сябрамі, выдае „Бюлетэні“ час ад часу, калі ёсьць пільная патрэба, хто колечы з сяброў яе выяжджае на правінцыю, як для спраўджаньня і азнаямленьня з працай на мясцох, так і да ўладаў дзеля інтэрвэнцыяў у справах Т-ва. Але ўсё гэта разам узятае вымагае грашовых расходаў, якія дазволіць сабе Галоўная Управа не заўсёды можа. З гэтага вынікае, што, калі ёсьць недахопы ў нашай працы, то галоўным чынам дзякуючы браку грашовых срэдстваў. А каб гэтых недахопаў было як мага меней, каб можна было вясьці больш інтэнсыўна прадуктыўную працу, *мы просім на гэтым мейсцы ўсіх сваіх сяброў і сымпатыкаў, каб складалі аднаразовыя ахвяры на падтрыманьне працы Галоўнае Управы хоць па 10 грошаў ад асобы.* Усе больш дзейныя гурткі апрача таго *павінны зладзіць па аднаму спэктаклю,* даходы ад якіх паступілі-бы на тую-ж самую мэту. Калі ўсе дружна адклікнецесь, падтрымаеце сваю культурна-асьветную арганізацыю, тады Галоўная Управа зможа высылаць інструктароў для харавых сэкцый і пазашкольнага навучаньня, лектароў для чытаньня рэфэратаў, зможа рабіць выезды на правінцыю і нармальна вясьці перапіску; адным словам, гэта ваша ахвярнасьць спрычыніцца да палепшаньня нашае працы да пашырэньня так патрэбных нам арганізацый Т-ва. Апрача таго ўсіх тых, хто яшчэ не аплаціў нашых „Бюлетэняў“ просімо зрабіць гэта ў самым хуткім часе каб не рабіць перашкодаў у далейшым выданьні іх, прычыняючы матэрыяльныя страты сваей неакуратнасьцяй.

Чакаем!

Справаздачы аб паступіўшых ахвярах па меры магчымасьці будзем замяшчаць у далейшых сваіх „Бюлетэнях“.

# ХРОНІКА Т-ВА.

## СТАЎПЕЦКІ ПАВЕТ.

**Арганізацыя новых гурткоў Т. Б Ш.** У м-цы кастрычніку Галоўная Управа атрымала шэраг заяў аб уступленьні ў сябры Т-ва і залажэньні новых гурткоў у Стаўпецкім павеце. Заявы атрыманы:

1) ад жыхароў *в. Стары-Сьвержан,* Нова-Сьвержанскае воласьці ў ліку 22 асоб, сярод якіх 8 рабочых а рэшта земляробы.

2) ад жыхароў *в. Ператокі,* тэй-жа воласьці ў ліку 13 асоб, сярод якіх адзін сталяр, рэшта — сяляне.

3) ад жыхароў *в. Дразды,* тэй-жа вол. у ліку 18 асоб, сярод якіх 9 рабочых, рэшта — сяляне.

4) ад жыхароў *в. Слабады,* Стаўпэцкай вол., у ліку 11 асобаў, усе — земляробы.

5) ад жыхароў *в. Сьцяцкі,* Стаўпэцкай вол., у ліку 10 асобаў, усе — земляробы.

6) ад жыхароў *в. Баханаў,* Стаўпэцкай вол., у ліку 10 асоб, усе — земляробы.

Галоўная Управа па разглядзе ўсіх гэтых заяваў выслала ім сяброўскія білеты і пасьведчаньні для дачасных кіраўнікоў, а таксама паведаміла Стаўпецкага старосту аб залажэньні гурткоў Т. Б. Ш. у пералічаных вёсках.

Аднак пісьмамі з дня 28 кастрычніка стаўпецкае староства адмовіла легалізацыі пяці гуткоў — у Старым-Свержані, Драздах, Слабадзе, Боханах і Сьцецках — і забараніла разьвіваць ім якую-колечы дзейнасць, матывуючы нязгоднасьць заяваў нашых са Статутам Т-ва. На гэтыя пастановы Галоўнай Управай зложаны рэкурс да Навагрудзкага ваяводзтва.

Адносна гуртка ў Ператоках робіцца старостствам дазнаньне аб формальнай законнасьці заявы.

Дадаем, што заявы былі зложаны Галоўнай Управай згодна з усталенай гадамі практыкай на ўсім абшары дзейнасьці Таварыства.

## ВАЎКАВЫСКІ ПАВЕТ.

**Новыя гурткі.** 14 жніўня с. г. адбыўся арганізацыйны сход *Раманаўскага* гуртка Ізабэлінскай вол. (у папярэднім „Бюлетэні“ была гутарка аб Раманаўскім гуртку Сьвіслацкай вол.). На старшыню ўправы выбраны Р. Абрамчук, на сэкрэтара А. Загорскі і на скарбніка Р. Сяргей.

Гурток залажыўся пры 10 асобах, а цяпер налічвае 27 сябраў.

На сходзе пастаноўлена залажыць Народны Дом і бібліятэку-чытальню, загадчыкам якой вызначаны Т. Міляшкевіч,

Новазаложанаму гуртку найлепшыя пажаданьні ў працы на культурна-асьветнай ніве.

— Зложаны заявы і паведамленьні ваўкавыскаму старосьце на залажэньне новых гуткоў у *м. Сьвіслачы* і *в. Нязбодзічах*, сьвіслацкай вол., пры 10 закладчыках у першым і 12 у другім гуртку.

**Ельцаўскі гурток.** Дня 18 верасьня б. г. Ельцаўскі гурток Т. Б. Ш. ставіў спэктакль, на якім адыгралі „Пакой у наймы“ і „Птушку шчасьця“. Агульнае зацікаўленьне вельмі добрае. Цяпер драматычная сэкцыя гатовіцца да пастаноўкі п'есы „Змагары за ідэю“.

Вітаем жывую дзеяльнасьць Ельцаўскага гуртка і верым, што за яго прыкладам пойдуць іншыя вёскі, закладаючы гурткі і нясучы асьвету шырокім сялянскім масам.

**Дабравольскі гурток** Сьвіслацкай вол. паведамляе, што ад 1 чэрвеня б. г. пастаўлена 3 прадстаўленьні ў Добраролі і адно ў в. Рудні. Праца ў гуртку наагул пашыраецца, лік сябраў павялічваецца Цяпер агульны лік сябраў 56 асоб. Гурток выпісаў праз Галоўную Управу кніжак і падручнікаў для пазашкольнага навучаньня дарослых і дзяцей.

## Аб Акружным Зьезьдзе Т. Б. Ш. у Ваўкавыскім павеце.

Аднэй з пільнейшых нашых задач стаіць на парадку дзенным скліканьне павятовага Зьезду Ваукавышчыны. Дабравольскі і Ельцаўскі гурткі выявілі сваю гатоўнасьць памагчы Галоўнай Управе ў гэтай працы. Заклікаем да помачы і іншыя гурткі Ваўкавышчыны.

Зьезд мае адбыцца ў Сьвіслачы.

## З БЕЛАСТОЦКАЙ АКРУЖНАЙ УПРАВЫ Т. Б. Ш.

**Стан Т. Б. Ш. у Беласточчыне.** Усіх гурткоў (разам з м. Беластокам) налічваецца там 16, з агульным лікам 460 сябраў, на адзін гурток, такім чынам, у сярэднім выпадае прыблізна 29 сябраў, што параўнаўча з іншымі гурткамі, якія часта налічваюць мала больш як 10 сяброў — значны поступ. Найбольшы лік сяброў маем у Белевіцкім гуртку (51) і Гарадоцкім (51). У самым Беластоку — 23.

З агульнага ліку 460 сяброў, жанчын 52. Па сацыяльнаму палажэньню, большасьць — 300 сялян, рэшта — работнікі.

Паскольні можна было ўстанавіць, 9 гурткоў маюць бібліятэкі-чытальні з 1807 экзэмплярамі кніжак, 5 гурткоў маюць па 2 сэкцыі: драматычную і харавую, 5 — толькі драматычную а гурткі ў Гарадку і Міхалове маюць драматычныя, харавыя сэкцыі і аркестры. У 9-ці гурткох практыкуецца пазашкольнае навучаньне.

Гурткі наладзілі ўсяго 23 спэктаклі, у той-жа час забаронена было 14 г. зн. больш як палавіна пастаўленых.

20 лістапада с. г. адбыўся Акружны Зьезд Беласточчыны, на якім адбыліся перавыбары Акружнай Управы і Наглядной Рады. Прадстаўнікамі ад Галоўнай Управы на Зьезьдзе былі сябры яе д-р М. Марцінчык і П. Кізевіч.

Дакладную справаздачу аб зьезьдзе падаем ніжэй.

— **Новы гурток.** закладаецца у *в. Дзерняковe*, Гарадоцкай вол., Беластоцкага павету.

## З КОСАЎСКАЙ АКР. УПРАВЫ Т. Б. Ш.

**Паседжаньне Акр. Управы.** Дня 2 кастрычніка б. г. адбылося паседжаньне Акр. Управы, на якім было пастаноўлена склікаць Акружны Сход Т-ва на 16 кастрычніка г. г. На гэтым-жа паседжаньні, на падставе паступіўшай заявы з дня 25.IX.32 г. ад грамадзян вёскі Буцькі, Ражанскае вол., Косаўскага пав. у ліку 17 асоб, аднагалосна было пастаноўлена *прыняць жадаючых у сябры Т Б. Ш. і залажыць гурток у в. Буцькі.*

**Павятовы Сход у Косаве.** Згодна з вышэй прыведзенай пастановай, дня 16 кастрычніка г. г. адбыўся ў Косаве Агульны Сход дэлегатаў гурткоў Т-ва Беларускай Школы Косаўскага павету. Прысутных было 40 дэлегатаў. Парадак дня абымаў 7 пунктаў.

На старшыню сходу быў выбраны гр. Вайцішэня, на сэкрэтара — Палешук.

З справаздачы Акружнай Управы і Наглядной Рады даведываемся, што за час ад 10.V 31 г. Акружная Управа Т-ва прыняла новых 312 сяброў, з якіх 40 успамагаючых.

**На нова пачалі працу гурткі** ў в. Яглевічы, Пастарынь, Галенчыцы Івацэвіцкае вол., Байках, Блізкая, Калазубы, Буцькі, Ражанскае вол., Разьмерках, Косаўскае вол., Агароднікі, Пескаўскае вол. — усяго 9 гурткоў.

**Бібліятэкі-чытальні заложаны ў вёсках:** Белавічы, Едчыкі, Кулешы, Байкі, Міхнавічы — усяго 5.

Дня 8.I.32 г. у м. Косаве, у памешканьні Народнага Дому Акружнай Управай быў наладжаны спэктакль. Пастаўлена была драма Францішка Аляхновіча „Дрыгва“. Прыходу было 75 зл. 75 гр., расходу 51 зл. 64 гр., чысты даход такім чынам выносіў — 24 зл. 11 гр.

Усяго паступіла з сяброўскіх складак і даходу ад спэктакляў за 1932 г. 325 зл. 20 гр., у тойжа час зроблена расходу на 323 зл. 54 гр.

Далей адбыліся выбары Акружнай Управы і Наглядкай Рады.

На старшыню Наглядкай Рады выбралі Барана Пятруся, з в. Калазубаў, Ражанскае вол., на віцэ-старшыню Мінчука Мікалая з вёскі Галенчыц і Белага Пятруся з вёскі Гошчава; на сэкрэтара Беньку Грыгора з вёскі Скуратаў і віцэ-сэкрэтара Войцешэню Сяргея.

На старшыню Акр. Управы выбралі Дзяніса Міхальчыка з в. Старажоўшчыны, на віцэ-старшыню Сухадольскага Мікалая з вёскі Вараўнілаўцаў, Ражанскай вол.; на сэкрэтара гр. Паляшука Язэпа з в. Юкевіч, віцэ-сэкрэтара Гардзейчыка Кастуся з в. Гошчэво, на скарбніка Хараўчука Васіля з вёскі Юкевіч.

**Дэлегатамі на Агульны Сход у Вільню** выбралі гр. Мікалая Сухадольскага з в. Варанілавіч і Левашэню Грыгора з в. Куляшоў, Касаўскага пав.

**У пляне працы на будучыню** аднагалосна пастанавілі правесьці як найшырэй культурна-асьветную працу ўва ўсіх галінах, залажыць сэкцыі: драматычныя, харавыя, эдукацыйныя г. зн. пазашкольнай асьветы, прэсавыя і г. д.

У бягучых справах пастаноўлена, каб Акружная Управа Т. Б. Ш. адшукала фанар для высьвятленьня абразоў.

— Ад Акружнае Управы на паседжаньні яе адбыўшымся пасьля павятовага зьезду — дэлегатамі на Агульны Сход абраны грам. Д. Міхальчык і Я. Паляшук.

— У Косаўскую Акружную Управу 24 лістапада б. г. паступіла заява грамадзян в. Куляны Ружанскае вол. аб узнаўленьні дзейнасьці іхняга гуртка, які даўжэйшы час не выяўляў актыўнай працы.

— За лістапад месяц Косаўскай Акружнай Управай прынята 43 новых сябра.

— Косаўская Акружная Управа заклікае гурткі Косаўскага павету прысылаць у Акружную Управу грашавую дапамогу. Як ведама добра некаторым гурткам, не аплочана нават памешканьне Акружнай Управы за некалькі месяцаў.

## АШМЯНСКІ ПАВЕТ.

**Бялевіцкі гурток** каля Смаргоні заложаны ў студзені 1930 году.

Пішуць нам адтуль, што перашкоды, якія спаткаў гурток пры яго залажэньні дадавалі сябрам яго яшчэ болей энэргіі да працы. Ня глядзячы на тое, што трэба было не спаць цэлыя ночы, калі адбываліся рэпэтыцыі, хадзіць у мяцеліцу за некалькі вёрст — ідуць усе вясёлыя і ахвочыя. Залажылі бібліятэку-чытальню, пазносілі кнжкі, якія хто меў, трохі купілі з даходу ад вечарыны — і бібліятэка злажылася з 150 кніжак: пачалося жыцьцё у нашым глухім кутку. Хоць і цяжка было хадзіць зімовым часам пехатой за 30 вёрст у Староства за дазволам на спэктаклі — але для ахвочых гэта нічога. Гурток працаваў актыўна паўтары года і паставіў за гэты час 9 спэктакляў, апошні раз „Змагары за ідэю“.

Цяпер бібліятэка стаіць апячатавана і больш як год праца гуртка стаіць на мёртвым пункце. З гэтага часу наўкола аглушэла, хоць дух у сябраў не замёр, але да працы прыступіць у цяперашніх варунках нашага жыцьця цяжка. Аднак моцна верым, што надыдзе лепшы час — толькі трэба працаваць не пакладаючы рук і не чакаць, што нам нехта іншы паможа.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ.

**Новы гурток.** Дня 21.X.32 г. Галоўная Управа Т. Б. Ш. выслала п. Старосьце, Сакольскага пав. паведамленьне аб залажэньні гуртка Т-ва ў *в. Боркі*, Шудзялаўскае вол. Лік закладчыкаў 22 асобы, з якіх 17 сялян, рэшта — работнікі.

## СЛОНІМСКІ ПАВЕТ.

**Лёс сялянскага радыё-прыёмніка.** Ад сялян м-ка Азярніц мы атрымалі наступнае пісьмо:

„У часе ліквідацыі нашага гуртка ўлада забрала радыё, якое належала да гуртка і было куплена часткай за грошы гуртка і сялян м. Азярніцы.

У жніўні м-цы была зложана просьба да п. Слонімскага Старосты, каб ён дазволіў ізноў паставіць радыё для слуханьня, а як не, то дазволіць яго прадаць.

П. Староста даў адказ праз Гміну, што карыстацца радыё-апаратам, так як было раней, ня можна, а паставіць яго можна толькі ў школе ў м. Азярніцах і там слухаць. Але, бяручы пад увагу, што там у школе нам ня было-б магчымасьці слухаць, бо кантролем быў-бы вучыцель— мы пастанавілі апарат прадаць і за грошы, з прадажы збудаваць лазьню.

Радыё-апарат ацэнены на 150 зл. Нам самым ён каштаваў 550 зл. Прадажа адбудзецца на таргах і мы спадзяёмся, што больш 150 зл. за яго ня возьмем, за якую суму мы нічога ня зможам зрабіць, тым балей, што ўсёй гэтай справай кіруе Гмінны Урад, які ня дасьць нам скіраваць грошы на якую небудзь іншую мэту. Такім чынам, мы прыходзім да вываду, што ляпей было-б як небудзь затрымаць апарат і паставіць яго хоць бы ў памешканьні Пажарнай Стражы, каб і мы маглі яго слухаць“.

Далей сяляне просяць рады па гэтым пытаньні, таксама просяць паведаміць якую можна было-б залажыць новую культурную арганізацыю, як адчыніць нанова гурток Т. Б. Ш., як зрабіць, каб можна было наладзіць беларускі спэктакль.

Галоўная Управа дала адказ на ўсе гэтыя пытаньні, а на падставе § 19 статуту Т-ва зьвяр-

нулася да п. Старосты аб перадачы радыё-апарату на перахоў аднаму з сялян м-ка Азерніц.

Галоўная Управа не атрымала яшчэ адказу ў гэтай справе ад Слонімскага Старосты і ня мае далейшых вестак аб лёсе азярніцкага радыё-апарату.

**Салідарнасьць і даверра.** Дня 18.IX.32 г. адбыўся сход Раманаўскага гуртка Сьвіслацкай вол. Ваўкавыскага пав., які прыняў наступную рэзалюцыю:

„а) Азнаёміўшыся з пастановамі Галоўнае Управы з дня 16 жніўня г. г. і Акружнае Управы з дня 23 жніўня г. г. мы сябры Раманаўскага гуртка Т-ва Бел. Школы ўсё-цэла салідарызуемся з гэтакімі і заклікаем Галоўную і Акружную Управу да чыннае працы на шырокім полі Таварыства ў тым самым кірунку, у якім яны працавалі і да гэтага часу,

б) Мы сябры Раманаўскага гуртка Т-ва Бел. Школы шчыра вітаем Галоўную і Акружную Управу і выносім поўнае даверра, якія цьвёрда і непахісна стаяць у абароне культурна-асьветных і статутовых правоў Таварыства Бел. Школы.

Выжэйвынесеная рэзалюцыі арыгінал перасылаем у Беластоцкую Акружную Управу Т. Б. Ш. і просім, каб яна была надрукавана ў „Бюлетэні“.

Рэзалюцыя мае 18 падпісаў.

Рэзалюцыі падобнага зьместу былі вынесены Дабравольскім гуртком Сьвіслацкай вол. і Тапільцаўскім, Беластоцкага павету.

# Акружны Зьезд Т. Б. Ш. у Беластоку.

У нядзелю 20 лістапада адбыўся ў Беластоку зьезд дэлегатаў Т. Б. Ш. ад Сакольшчыны, Ваўкавышчыны і Беласточчыны. Прысутных на зьезьдзе 56 дэлегатаў ад 17 гурткоў і 6 гасьцей; апрача таго былі прадстаўнікі мясцовае адміністрацыі і ад Ваяводзтва п. Высокінскі. Ад Галоўнае Управы прымалі ўдзел у правядзеньні Сходу д-р М. Марцінчык і П. Кізевіч.

Старшыня Бел. Акр. Управы Я. Грэсь зрабіў справаздачу аб працы Акружнае Управы. Ня гледзячы на перашкоды і няпрызнаваньне уладамі, усё-ж Акр. Управа зрабіла шмат у сэньсе падняцьця культурнага і арганізацыйнага роўня Т. Б. Ш. у Беластоцкім вокрузе. Цяпер Управа лічыць 23 дзейных гурткоў з 604 сябрамі, 10 бібл.-чыт., 15 Народных Дамоў. Драматычнымі сэкцыямі пастаўлена 36 спэктакляў; 14 спэктакляў заборонена. Ёсьць 2 радыё апараты. Усе гурткі азначаюцца вялікай працаздольнасьцю, намячаецца ладжаньне лекцыяў, вучобы няпісьменных і г. д.

Агульны Сход пасьля кароткай дыскусыі, удзяліў абсолюторыюм уступаючай Акружнай Управе.

Са справаздачы сябраў Нагляднае Рады, у складзе Кузьміна, Гутніка і Кавалеўскага выявілася, што Н. Рада не зрабіла ані воднага паседжаньня і занядбала свае абавязкі цалком. Дзеля гэтага Агульны Сход абсолюторыюма Нагляднай Радзе ня прызнаў.

Пасьля гэтага былі заслуханы справаздачы гурткоў: Беластоцкага, Гарадоцкага, Мелешкоўскага, Белевіцкага, Міхалоўскага, Новавольскага, Залуцкага, Тапільскага і Зачэрлянскага Беластоцкага павету; Раманаўскага каля Сьвіслачы, Вяліка Грынкаўскага, Дабравольскага, Ельцаўскага і Раманаўскага каля Ізабэліна, Ваўкавыскага павету. Усе яны адзначылі, што ў тых умовах, у якіх прыходзіцца працаваць зроблена шмат. Прынята пастанова палажыць націск на справу ладжаньня лекцыяў, рэфэратаў і вячэрніх заняткаў.

У наступіўшых выбарах засталі выбранымі ў склад Акр. Управы: Кандрусік М., Ляшчынські Я., Зубрыцкі Ф., Грэсь Я., Цішэўскі Ю., Лебедзінскі В., Лукашык В., і заступнікамі Русь С. і Лінчук Ю. У Наглядную Раду выбраны: Грынаш М., Дубатоўка Я., Кізевіч П., Дарошко М., Зіневіч А. і заступнікам іх Васілеўскі Мікалай.

Па заканчэньні абрадаў Сходу прысутныя адсьпявалі гымн: „Ад веку мы спалі“.

Пасьля Зьезду вечарам Беластоцкім гуртком быў зладжаны спэктакль, ігралі: „Птушку шчасьця“, а пасьля быў канцэрт хору. Спэктакль меў заслужаны посьпех у дэлегатаў, гасьцей і публікі, запоўніўшай салю.

# „Беларуская Школа у Латвіі“.

Прыймаецца падпіска на адзіны папулярна-навуковы, пэдагагічны і літаратурна-грамадзкі месячнік у Балтыцы „Беларуская Школа ў Латвіі“

**„Б. Ш. у Л.“** асьвятляе культурна-грамадзкае жыцьцё беларусаў у Латвійскай Рэспубліцы і апроч таго дае мейсца аглядам беларускага жыцьця ў Літве, Заходняй Беларусі, у Беларускай Савецкай Рэспубліцы і іншых краёх.

**„Б. Ш. у Л.“** працуе ў цесным кантакце з Беларускімі Навуковымі і культурна-асьветнымі арганізацыямі ў Латвіі і ў наступным годзе мае зьмясьціць рад артыкулаў пэдагагічнага характару і матэрыялы з беларускае народнае творчасьці, сабраныя ў Латвіі.

Падпісная плата для нашых арганізацыяў і асоб, якія надашлюць падпіску праз Галоўную

Управу Т. Б. Ш. (Wilno, ul. Kijowska 4—24) будзе выносіць у год 6 зл., паўгоду 3 зл. 50 гр., за месяц 60 гр.

Гурткам Т-ва радзім выпісаць усе нумары часопісі пачынаючы ад чэрвеня м-ца гэтага году.

**Новыя кнігі:** К. Езавітаў — Беларусы ў Літве, Рыга 1932 г., цана 60 гр.

Ф. Аляхневіч — У лясным гушчары, казка ў 1 акце для дзяцей малодшага веку, Рыга 1932 г., цана 30 гр.

Пятро Сакол — На сьвітаньні, першы зборнік вершаў. Рыга 1929 г. цана 1 зл.

Выпісваючы праз Галоўную Управу, падавайце свае точныя адрасы.

# Адказ „Беларускай Крыніцы“.

„Беларуская Крыніца“ у артыкуле пад загалоўкам „Камо грядеши“ шукае ў інфармацыях нашага „Бюлетэню“ адносна справы супрацоўніцтва арганізацыяў Т. Б. Ш. з польскімі грамадзкімі арганізацыямі, узьнікшай у Беластоцкім ваяводзтве па ініцыятыве ўладаў, хіба нейкага ідэёвага падпарадкаваньня з боку арганізацыяў Т. Б. Ш. і яго Галоўнай Управы — польскай адміністрацыі. Дашукалася да таго імкненьня да *„аб'яднаньня“* нашых арганізацыяў з памянёнымі польскімі арганнізацыямі і нават гадае, што будучы Акружны Зьезд (які адбыўся ўжо 20 лістапада) адбудзецца *„пэўне-ж не бяз паразуменьня з ваяводзкімі ўладамі“*

Пасьля падрабязных інфармацыяў, паданых у нашым „Бюлетэві“, тлумачыцца перад закідамі і меркаваньнямі „Беларускай Крыніцы“ уважаем лішнім. Можам толькі паўтарыць, што паскольні праца нашай арганізацыі праўна падпарадкавана адміністрацыі — мы ня можам ухіляцца ад размоваў з уладамі, што ня значыць, быццам гэтыя конфэрэнцыі прызнаем *„правільнымі“*.

У канцы можам запэўніць „Беларускую Крыніцу“, *што шлях наш не вядзе да ўрадавых канцэлярыяў, як ідэёвай крыніцы нашай дзейнасьці.*

# Т. Б. А. ня ёсьць Т. Б. Ш.

Як падае санацыйны „Беларускі Звон“ у Вільні мае залажыцца Т-ва Беларускай Асьветы (ТБА). Паводле чутак, гэтае Таварыства мае заступіць сабою Цэнтрасаюз, які фактычна развапіўся пасьля таго, як з яго павыходзілі Бацькаўскія камітэты самастойных яшчэ беларускіх гімназіяў. Дзеля таго, што Т. Б. А. сваім назовам вельмі падобнае да Т. Б. Ш., папяраджаем нашых сяброў, гурткоў і прыхільнікаў, *што Т. Б. Ш. ня мае нічога супольнага з Т. Б. А.,* апроч толькі падобнасьці ў назове.



Выдавец: Т-ВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ. Рэдактар: Ф. СТЭЦКЕВІЧ.

Друкарня С. Бэкера. Вільня, Субоч 2.